## Губеце майскіх жукоў!

Хто ня ведае гэтых шкоднікаў?! Але сьмела можна сказаць, што і палова тых людзей, што знаюць майскага жука, не ўяўляе сабе ўсіх шкодаў, якія ён у гаспадарцы робіць, асабліва калі размножыцца ў такім ліку, як гэта мае месца сёлета. Газэты нядаўна разьнясьлі па цэлым сьвеце вестку, што напр. у некаторых мясцовасьцях Нямеччыны, дзякуючы раньняй і цёплай сёлетняй вясьне, лічба гэтых жукоў так размножылася, што па захадзе сонца яны лятаюць цэлымі хмарамі і, б'ючы аб твар падарожных, не пазваляюць нават ім пасувацца наперад.

Шкодны майскі жук ня гэтулькі сам, колькі сваімі паскладанымі ў зямлі зародкамі, гэт. званымі дратнякамі, якія бываюць вельмі жыркімі і аб'ядаюць карэньні культурных расьцінаў. У народнай-жа мове такое пад'яданьне ведамае як пад'яданьне рабака; бо зародак майскага жука сапраўды і выглядае як звычайны цьвёрды (дрот!) рабак. Сам-жа майскі жук шкодзіць тым, што кладзе ў зямлю свае зародкі і аб'ядае лісты дрэваў і расьцінаў, на каторых раніцай і днём спакойна і бястурботна сабе адпачывае.

Дзеля ўсяго гэтага трэба нішчыць як самога майскага жука, так асабліва ягоныя зародкі ў зямлі, вышэй названых дратнякоў. Гэтых апошніх добра выбіраюць за плугам куры, вароны і інш. птушкі. Нішчыць дратнякоў і мароз, калі ўвосені поле бывае заараным і зазімуе ў вострай баразьне (небаранаванай).

Жукоў-жа самых мусіць нішчыць сам гаспадар беспасярэдна, тым-больш, што яны могуць быць вельмі добра выкарыстаны ў гаспадарцы. Робіцца гэта так:

Пад дрэвы, на лістох каторых жукі адпачываюць па вячэрняй і начной сытай бяседзе, падсьцілаюцца посьцелкі, а само дрэва хутка але моцна страсаецца. Ад гэтага жукі звальваюцца на падсьцеленую посьцелку, скуль трэба іх ссыпаць у вядро і заліваць загадзя прыгатаваным вараткам. Робіць усё гэта трэба хутка, але бяз лішняга крыку і суталкі, ад каторай жукі хутчэй толькі прачынаюцца і разлятаюцца.

Запараныя гэтак гарачай вадой і пасьля высушаныя майскія жукі могуць быць ужытыя як добры і смашны корм для сьвіней, і курэй. Корм гэты можа быць спатрабаваны зараз-жа, можа быць перахоўваны ў вісячых у правеўным месцы мяшкох ці карзінах і кошыках, або можа быць змолаты на муку, якая яшчэ лепш прыгодна да абмешкі сьвінной ці курынай пашы.

Да зьбіраньня жукоў найлепш заахвоціць дзяцей, плацячы ім па 5—10 грашоў за назьбіранае вядро гэтых шкоднікаў. **А. Ш**

---

стазельля і палоць. Ні ў якім выпадку ня можна пазволіць каб сьвірэпка на полі цьвіла: раз што яна да гэтага часу надта шмат абкрадае поле, а найважней тое, што за цьветам уміг сьпее ўжо і насеньне, якім пасьля засьмечываецца поле і надалей.

На полі мусіць расьці тое, што пасеена: пустазельле-ж, як сапраўднага злодзея нашых палёў, трэба нішчыць! **С. Я.**

---

## Vykarystoŭvajcie sonca!

Nadyšła viasna, leta blizka. Kožnaja žyviolinka, kožny žučok, kožnaja travinka i bylinka chinucca da sonca. Ciešacca dzietki z dobraj pahody i cały dzień biehajuć nadvory. Tolki ŭ niekatorych starejšych, a pieravažna dziaŭčat, źjaŭlajecca bajaźlivaść, kab nie zahareć: jak-ža jany mylacca i škodziać samym sabie! Čystaje pavietra i sonca heta najlepšaje lakarstva dla našaha arhanizmu. Kab u nas byli padrad dźvie zimy, dyk z niedachopu pavietra i sonca vymierła-b $^1/_8$ dziaciej i $^1/_5$ starejšych.

Sonięčnyja pramieńni pryśpiešyvajuć pieramienu materyi — pajaŭlajecca apetyt, robiać adpornym arhanizm na skurnyja chvaroby, „vyhaniajuć“ reŭmatyzm, źmianšajuć boli i nacioki pry artretyźmie, u dziaciej z angiełkaj pryčyniajucca da narmalnaj pieramieny vapny, uspakajvajuć nervy, lečuć suchoty kaści i h. d. i h. d. Słovam, sonca pamoža kožnamu, za vyniatkam: duža schvareŭšych i małakroŭnych, suchotnikaŭ i naahuł chvorych ciažka na lohkija i serca. Hetym apošnim lepš prabyvać u ciani.

Adnak, kab sonca nam dało karyść, musimo naśviatlać svoj arhanizm pavodle nastupnaha planu:

1. Zaŭsiady treba mieć nakrytuju čymniebudź hałavu, kab nie nastupiŭ sonięčny ŭdar, a pieradusim tady, kali my tolki pačynajem naśviatleńnie.

2. Pieršy raz — raździeŭšysia susim hre jemsia tolki $^1/_2$ hadziny, druhi dzień — hadzinu, treci dzień — dźvie i h. d.

3. Zaŭsiady treba na soncy pieravaračyvacca, kab nie spalić u vadnym miescy skury i kali choć kryšku zrobicca słaba, ci dušna, treba adyjści ŭ cień.

4. Abjadacca, asabliva tłustaha, pierad naśviatlańniem nia možna.

5. Nahreŭšysia nia možna adrazu kidacca ŭ vadu, a tolki treba pavoli abmačyvać čaści cieła, a paśla ŭžo kupacca. Najlepš heta rabić, kali sonca ŭžo nia tak piače.

Kali-b zdaryŭsia vypadak sonięčnaha ŭdaru, dyk chvoraha treba najpierš tak pałažyć, kab hałava jahonaja była vyšej usiaho cieła. Dalej, na hałavu kładziom zimny kampres abo lod, a na nohi dajom kampres ciopły. Vakolicu serca treba dobra pieracirać zimnoj vadoj. Paśla padajucca chvoramu razvalniajučyja srodki, napr. senes („stručki“), rycyna i pad. Dalšyja (ciažejšyja), sposaby ratavańnia, jak pabudžańnie serca, davańnie ŭkołaŭ, puskańnie kryvi i inš. moža pravodzić tolki asoba, jakaja znajecca na lekach. *J. M.*

# Май ў пчальніку.

У меру таго, як робіцца цяплей і прыбывае пажытку, пчаліныя маткі кладуць больш яечак і сіла пчалінай сям'і ўзрастае. Разумеецца, залежыць гэта ад вясны: ці яна цяплейшая ці халаднейшая; залежыць і ад ваколіцы: ці бяднейшая яна, ці багацейшая на мядовыя расьціны. Але нават у адным і гэтым жа пчальніку ня ўсе пчолы аднолькава разьвіваюцца.

Пчолы, якія выйшлі з зімы моцнымі і мелі здавальняючы запас мёду, разьвіваюцца хутчэй і наадварот, слабыя раі даходзяць да сілы вельмі памалу. Пераменная пагода на вясну бывае вельмі небясьпечнай для пчолаў.

Падчас цяплыні матка можа ўсё гняздо заняць чарвой, а калі пасьля цяпла наступіць некалькі дзён халодных і дажджлівых, дык пчолы зьеўшы ўвесь свой запас мёду могуць асыпацца з голаду. А хаця-б нават і не асыпаліся, то могуць змарнаваць маладую чарву, бо яны яе высысаюць і ўжываюць на корм для старэйшай чарвы. Дзеля гэтага падчас непагоды, калі ў ваколіцы няма добрага мёдазбору, а ў вульлёх ня было здавальняючага запасу мёду, трэба безадкладна раі падкарміць і цёпла накрыць.

Калі падчас добрай, цёплай пагоды заглянем у сярэдзіну вульля і пабачым, што ўсе плястры занятыя чарвой і мёдам і матка ня мае дзе класьці яечак, а пчолы — мёду, то значыцца наступіў найвышэйшы час, каб дадаць пчолам яшчэ рамкі.

Калі маем у запасе гатовую вашчыну, то даём яе, уважаючы, каб яна была чыста пчаліная, бяз трутовых чарачак, бо йнакш матка наразводзіць трутоў.

Калі вашчына ня чыста пчаліная, то можам кускі з трутовымі чарачкамі павырэзываць і ўштукаваць пчаліныя.

Трэба таксама сачыць, каб падчас расплоду не даваць старой чорнай вашчыны, бо з такой вашчыны выходзяць ненармальна малыя пчолы, якія ў цесных чарачках ня могуць належна вырасьці і разьвіцца. Калі няма ў запасе вашчыны натуральнай, даём вузу.

Ніколі ня трэба дадаваць адразу больш чым адну, найбольш дзьве рамкі, бо дадаўшы больш можна ахаладзіць гняздо і ўстрымаць працу пчол.

**Л. Войцікава.**

### Папраўка.

У апошнім (4-тым) нумары „Самапомачы" на бачыне 31-ай, у стацьці „Прад саджэньнем бульбы", у 35—36-тым радкох зьнізу закралася з пасьпеху прыкрая абмылка: Надрукавана „на 10-цёх квадратных мэтрах (10 мэтраў удаўжкі і 10 — упоперак), а павінна быць „на 10-цёх квадратных мэтрах (4 мэтры ўдоўжкі і $2^1/_2$ мэтры ўпоперак". — Просім нашых Паважаных Чытачоў гэту абмылку паправіць.

РЭДАКЦЫЯ „САМАПОМАЧЫ".

# Летняе гнаеньне агародаў.

Трудна спадзявацца добрага ураджаю агародніны, калі не хапае пад яе неабходнай колькасьці ўгнаеньня. Звычайна для ўгнаеньня агародаў ужываецца хляўны гной; але сягодня, калі колькасьць жывёлы значна паменшала, яго ёсьць так мала, што на патрэбы гаспадаркі ніяк хапіць ня можа. Закладаньне кампостных кучаў, нажаль, яшчэ мала распаўсюджана, дык і нашы агароды выглядаюць вельмі няцікава і даюць мала карысьці.

Справу можна палепшыць распачаўшы летняе гнаеньне адпаведна прыгатаванымі гнаёвымі жыжкамі. Гнаёвыя жыжкі — вельмі моцныя і хутка дзеючыя. Іх надта карысна ўжываць дзеля таго, што матэр'ялаў угнаеньня разыходзіцца мала, а ўраджаі шмат разоў павялічваюцца.

Гнаёвыя жыжкі можна прыгатаўляць як з конскага, так і з кароўяга гною; але там, дзе радзіцца ўжываць штучныпа гной — салетру, там найкарысьней стасаваць жыжку з гною курынага. Курыны гной, паводле складу пажыўных частак, прынамсі ў 5—6 разоў мацнейшы за іншыя гнаі, а 1 кілёграм яго мае тое самае значэньне, што і 1 кіл. салетры.

Прыгатаўляюцца гнаёвыя жыжкі наступным спосабам.

У кутку агароду трэба ўкапаць ў зямлю нецякучую бочку селядзёўку, напоўніць яе да паловы навозам і даверху наліць вадой. У працягу 3—4 дзён мяшаць гэта палкай аж да нізу, каб навоз добра разыйшоўся. Калі пагода цёплая то праз нейкі тыдзень на паверхні сумесі пакажуцца бурбалкі і пена. Гэта значыць, што жыжка пачала фэрмэнтаваць. Праз некалькі часу бурбалкі зьнікаюць і вось дзён праз 10—12 ад таго часу як ссыпалі ў селядзёўку навоз, можна ужо ім карыстацца.

Але такая гнаёвая жыжка вельмі моцная, дык каб яна не пашкодзіла расьлінам, трэба яе разбаўляць вадой бяручы на кожнае вядро жыжкі з конскага ці кароўяга гною 3—4 вядры вады, а на 1 вядро жыжкі з курынага гною —5—6 вёдзер вады.

Паліваць гнаёвымі жыжкамі агароднія расьліны трэба разы 3—4 ў працягу лета.

Найлепшым часам дзеля паліўкі зьяўляецца або вечар, або хмарная пагода, бо тады ўгнаеньне ня высыхае ад гарачыні; а каб яно ня так хутка ўвайшло ў глыбіню зямлі і належна было выкарыстана расьлінамі, трэба паліваць толькі вільготную глебу: або пасьля дажджу, або паліваць спачатку звычайнай вадой, а тады угнаеньнем.

Пачынаць паліўку трэба тагды, калі на расьліне ўтворыцца некалькі звычайных лісткоў, апрача лісьценяў, і калі расьліны добра прымуцца і пусьцяць моцныя карані. Пры паліўцы трэба зварочываць увагу, каб ня ліць на лісьцё, бо яно можа апаліцца.

## У абарону... сьвіней.

Прыкрая гэта сапраўды рэч быць сьвінскім абаронцам, ды яшчэ прад кім? — прад чалавекам! Але-ж яшчэ горш сваімі паступкамі гэткую абарону выклікаць. Дык бліжэй да справы.

Непрадуманае да канца, шаблённае касаваньне трохпалёўкі ідзе ў нас звычайна поруч з касаваньнем пасьбішчаў, а ўласьціва — папараў. На добры лад нічога ў гэтым благога, тымбольш, што абсалютная большасьць нашых пасьбішчаў гэта нават і ня пасьбішчы, а звычайны выган, заняцьце якога пад пасеўную расьліну магло-б быць толькі карысным. І яно так сапраўды ўсюды і было-б, калі-б такое пасьбішча мела за заданьне толькі накармленьне пасомай жывёлы. Але-ж яно так ня ёсьць, бо пасьбішча, апрача корму, дае йшчэ жывёле магчымасьць карыстаньня з дабрадзействаў **руху, сьвятла і чыстага паветра**. А гэта ў жывёлагадоўлі ёсьць вельмі важным. Як ня можна трымаць у цёмным і сырым катуху жывога чалавека, так ня можна ў такім катуху — а нашы хлявы, асабліва для сьвіней, назваць можна толькі катухамі — трымаць і немую безбаронную жывёлу. Проці гэткага трыманьня гавора ня толькі людзкое сумленьне, але і звычайнае гаспадарчае вырахаваньне: жывёла трыманая бяз руху і бяз вольнага паветра, ня можа расьці і карамжацее, як ня вырасьце ў ценю і здаровая расьціна.

Тымчасам што дзеецца ў нас? А вось: пры скасаваньні трохпалёўкі неразумная людзкая прагнасьць заграбае ўсё поле пад пасевы, не пакідаючы ані крошкі вольнага месца, дзе гадаваная жывёла магла-б калі не накарміцца дык прынамся глынуць чыстага паветра і папраставаць сабе ногі. Трудна згадаць, што тут мае перавагу: ці скупасьць на ўтрыманьне чалавека, які даглядаў-бы пасомую жывёлу, ці няўмеласьць зрабіць выгарадню, дзе гэткая жывёла нейкі час — або і круглы дзень! — магла-б аставацца і бяз сумыснага дагляду, ці — найскарэй! — людзкая цемната і неразуменьне, што гадаваць аплачваецца толькі жывёлу здаровую, а для здароў'я патрэбны ня толькі корм, але ў роўнай меры таксама: **рух, сонца і паветра.** **А. К**

---

Пасьля паліўкі на паверхні зямлі ўтвараецца як-бы скарынка, якая не дапускае да каранёў расьліны цяплыні і паветра, не дае ей добра разьвівацца. Гэтую скарынку трэба нішчыць, успульхняючы зямлю навокал расьлін.

Паліваньне гнаёвымі жыжкамі карысна для ўсей агародніны. І капуста, і буракі, і морхва, і пятрушка, і памідоры добра адплацяць нам нашыя стараньні.

У канцы мушу зазначыць, што паліўка трускавак гнаёвай жыжкай з курынага гною з попелам дае вельмі добрыя і пажаданыя вынікі. **Л. В.**

## Карбункул.

(*Anthrax*).

Карбункул гэта заразная, хутка-дзеючая хвароба, выкліканая сумысным бацылам; спатыкаецца ва ўсіх хатніх зьвярат, а таксама ў зьвярат дзікіх, што знаходзяцца ў зьвярынцах і можа быць перанесена з жывёлы на чалавека. Спасярод жывёлы найчасьцей хварэе на карбункул скаціна і авечкі, радзей коні і сьвіні і сусім рэдка каза і сабака.

Бацылы карбункулу знаходзяцца ў крыві хворай жывёлы і могуць быць перанесены з жывёлы на жывёлу толькі пры ўжываньні закрываўленага прыладзьдзя (напр. пры пусканьні крыві), далей спажыцьцём мяса, малака і крыві з хворай жывёлы і падобнымі спосабамі. Звычайна аднак хвароба не пераносіцца ад жывёлы на жывёлу, але жывучыя зародкі (споры) карбункулу пераходзяць на жывёлу з саломы, пошару, на каторых гэтыя зародкі трымаюцца. Гэтыя зародкі вырастаюць тут памалу з бацылаў карбункулу, якія вышлі з цела жывой або хворай жывёлы з крывавымі часткамі. Дзеля гэтага трэба заўсяды старацца чыста прыняць ня толькі трупы (падлу)-паўшай на карбункул жывёлы і крывавыя іх адпады, але таксама ўсе прадметы і самую зямлю апырсканую крывёй хворай жывёлы...

Зародкі карбункулу могуць дастацца на сенажаці, пасьбішчы таксама з адпадавымі водамі і іншымі астаткамі з гарбарняў, што выробляюць скуры і далей, з скурамі і касьцяным гноем...

Хвароба можа перанасіцца йшчэ пашай з заражаных ваколіц, або спажываньнем бульбы ці буракоў закапаных у яму, дзе прад некалькімі хоць-бы гадамі была закапана падла паўшая на карбункул, або калі з такіх мясцоў бярэцца пясок, зямля ці гліна ў хлеў, на панадворак, на сьцежкі і дарогі. Ведамы таксама выпадкі, калі зародкі карбункулу былі занесены з іншых краёў разам з зярном (аўсом), вотрубамі, жмыхамі і іншай пашай. Карбункул спатыкаецца адзіночна, радзей — масава.

**Адзнакі ў жывой жывёлы.** Адзнакі карбункулу за жыва залежаць ад характару хваробы. Жывёла можа захварэць нагла, на пасьбішчы, у хляве або пры працы і згінуць ўжо за некалькі мінут, быццам ад паралiжу (асабліва ў авечак), або трывае хвароба некалькі гадзінаў часу, часам цэлы дзень (востры корбункул); пры гэтай хворме жывёла раптам, без відавочнай прычыны, становіцца мляўкай, баязьлівай, стане трасьціся, поўсьць становіцца дыбам, перастае есьці і грацiць жвачку, часта бываюць пры гэтым болі жывата і надыманьне, а праз нейкі час крывавае развальненьне, а то і выцёк крыві з натуральных адбытовых мясцоў. Цяплыня цела паказвае гарачку, а дойная карова раптам зарывае.

Урэшце можа быць хворма карбункулу павальнейшая, якая кончыцца сьмерцю толькі цераз 2—7 дзён. Тут, акрамя паралічаных адзнакаў, можна заўважыць яшчэ хуткае худзеньне, страту сілы і часам болі адولькаў; у сьвіней здараецца часам з аднаго або з двух бакоў шыі пухліна, а дыханьне становіцца цяжкім, з хрыпеньнем. Скура можа быць хваробай не дакранута, часам аднак зьяўляюцца гузы, спачатку гарачыя і балючыя, а пасьля сьцюдзёныя і небалючыя.

Скаціна хварэе звычайна на карбункул востры; выпадкі параліжнага карбункулу трапляюцца часам на пачатку масавай заразы. У каня здараецца звычайна карбункул востры або павольны. У сьвіней, акрамя хвормаў вострай і павольнай, магчыма яшчэ хворма абмежаваная на адно толькі якое-небудзь месца (шыя, горла, кішкі), а відавочных адзнакаў можа і ня быць.

**Адзнакі на падле, пасьмертныя.** Пасьмертныя адзнакі спатыкаюцца адзіночна і масава і бываюць наступныя: крывавы выцёк з адходнага месца, селязёнка становіцца чорнай сусім ці толькі ў часьці, кроў падобная да дзёгцю, не запякаецца, ценькія кішкі ў цэласьці або толькі ў часьці становяцца сіня-чырвонымі... **Др. Ю. З.**

Выпадкі карбункулу блізу заўсяды канчаюцца сьмерцю. Аб лячэньні жывёлы ўжо заняпаўшай на карбункул блізу няма мовы. Тымбольш трэба сьцерагчыся затое ўсяго таго, што заразу можа ў гаспадарку прынесьці і аб чым дакладна было сказана на пачатку вышэй пададзенага апісаньня. Выпадкі карбункулу трэба безакладна паведамляць уладам. Вэтэрынар можа застасаваць шчапеньне проці карбункулу. За жывёлу, якая падзе паміж 1 ым і 2 ім шчапеньнем, або найпазьней цераз 14 дзён пасьля 2-га шчапеньня, гаспадар атрымоўвае адшкадаваньне.

—ч.

## Лекарскія зёлкі.

Ад найдаўнейшых часоў даходзяць да нас весткі, як розныя знахары, знахаркі, шаптуны ды наагул старыя людзі, асабліва жанчыны займаліся зьбіраньнем г. зв. памоцных зёлак і лячылі імі хворых.

У пазьнейшую пару навука забараніла верыць ў лячэньне знахараў, але-ж тая самая навука пераканалася аб вялікай лекарскай сіле шмат якіх зёлак і сягодня аптэкі прыгатаўляюць з іх рознаякія лякарствы.

Да апошніх часоў найбольшую колькасьць зёлак дастаўляла нам загранiца, дзе яны гадуюцца на адумысловых плянтацыях, крышацца (рэжуцца) на спэцыяльных машынах ды надзвычайна ўмела сушацца. У той-жа самы час, тыя-ж самыя зёлкі ў вялікай колькасьці расьлі ў нас і зьяўляліся нявыкарыстаным багацьцем краю.

У апошнія пасьляваенныя часы абставіны зьмяніліся. Цяпер у Польшчы сотні людзей займаюцца фахова зборам зёлак і існуюць арганізацыі і паасобныя людзі, якія высылаюць іх нават заграніцу вагановымі партыямі, па некалькі тысячаў кілёграмаў. Толькі ў нас, беларусоў ніякая зарганізаваная праца дагэтуль у гэтым напрамку не вялася. Праўда, шмат сялян, пераважна жанчын, зёлкі зьбірае, але прадаюць іх па крышцы, часта сьвежыя, ня сушаныя, розным дробным гандляром, а калі хто і прыгатовіць большую колькасьць высушаных зёлак, то ня ведае дзе іх прадаць і, зразумела, зьнеахвочываецца да распачатай працы.

Праца гэтая хоць у сваім пачатку і дробная, усё-ж такі карысная. Але аплатнасьць яе толькі тады будзе зусім пэўнаю, калі ўзяцца за яе умела. Вось дзеля гэтага Т-ва „Пчала“ ладзіць спэцыяльныя 3-тыднёвыя завочныя курсы. Курсы гэтыя усебакова пазнаёмяць зацікаўленых з працэсам збору і прыгатаўленьня лекарскіх зёлак, а Т-ва „Пчала“ запэўніць збыт іх, скупляючы і бяручы ў коміс кожную колькасьць. Не пашкодзіць заўважыць, што апрача карысьці матэрыяльнай, збор лекарксіх зёлак мае і моральнае значэньне. Самы працэс зьбіраньня вымагае пэўнага паважнейшага напрамку думак, дае тэму да гутаркі, заахвочвае да працы дзеля падняцьцця свайго дабрабыту, а найважнейшае, — прыбліжае чалавека да прыроды, знаёміць з яе цудамі і праз гэта ўплывае на этычнае і эстэтычнае разьвіцьцё чалавечай душы.

Дзеля вышэйсказанага збор лекарскіх зёлак зьяўляецца вельмі адпаведным і карысным заняткам для школаў і наагул дзіцячых групаў. Вясковыя вучыцялі ды наагул інтэлігенты павінны старацца арганізаваць цэлыя дзіцячыя кадры, зьбіраць з імі лекарскія зёлкі і акуратна рыхтаваць дзеля прадажы. Гэтакім чынам дзеці змогуць сабе зарабіць на кніжкі, а нават на цёплую адзежу, а ў душах дзіцячых зародзіцца пашана да тых твораў Божых, што хоць гаварыць і рухацца ня могуць, а столькі карысьці людзям прыносяць, пашана і любоў, якія не пазволяць дзяцём бязмысна таптаць і рваць кветкі, ды ламаць галінкі, як садовых, так і дзікіх лясных і прыдарожных дрэваў.

**Л. В.**

# Як гаспадарыць малаком чэская гаспадыня.

„Zemed. Jednota“ № 7/34 орган фаховага саюзу чэскіх земляробаў зьмяшчае апісаньне малочнай гаспадаркі аднэй сваей чытачкі, чэскай гаспадыні, адзначанае на конкурсе першай нагародай. Радаў з гэтага апісаньня сьцісла ўсюды застасовываць пэўна-ж ня можна, але агульныя правілы могуць быць карысны. а прынамся цікавы і для нас. Апісваная хвальварчная гаспадарка працуе відавочна ў мясцовасьці, дзе няма малачарскай коопэратывы. — рэд.

„Якасьць масла залежыць перадусім ад пашы дойных кароваў. Можна яе палепшыць прыдаваньнем мучной абсыпкі і такой самай пойлы. Старая чэская народная прыказка кажа: „Dej kravê do držky, ona ti dà do dižky“ (дай карове ў губу, яна табе дасьць у дайніцу). Але пры сёлетняй*) страшна нізкай цане малака і масла ня можна прыкармліваць; надварот, па леташнім сухім і неўраджайным леце трэба ва ўсім пошары, акрамя саломы, быць ашчадным, трэба дзеля таго, з увагі на якасьць масла, запасы мучной абсыпкі і канюшыны дакладна падзяліць, каб хапіла іх на цэлую зіму, аж да пераходу на пашу зялёную.

Далей, якасьць масла залежа ад здароўя дойных кароваў. Каровы нездаровыя трэба з агульнага хлява аддзяліць, западозраныя — даіць заўсяды на астатку, а малако ад іх зліваць асобна; спатрабуецца яно зваранае ў гаспадарцы, або скорміцца (сьвіням). Таксама трэба добра памятаць рок (срок) цельнасьці кароваў. Малако ад кароваў высокацельных таксама не мяшаем і не даём на цэнтрыфугу разам з тым малаком, сьмятану з каторага хочам біць на масла.

Трэцім і найважнейшым пунктам, ад каторага залежа якасьць сельскага масла, ёсьць чыстата. Абсалютная чыстата заўсяды і ўсюды, дзе толькі малако датыкаецца да рукі, да начыньня, цэнтрыфугі, бойкі (масельніцы).

У сярэдніх і большых гаспадарках дояць наёмныя дзеўкі, у дробных — самі гаспадыні. Да даеньня няхай кожная мае рукі заўсяды чыста вымытыя, чысты хвартух, а галаву зьвязаную хусткай ці... чэпчыкам. І добра і хараша. Па выдаеньні кожнай каровы, перш чым сесьці пад другую, няхай старанна вымые рукі. У часе... калі каровы церпяць на развальненьне, маюць пад сабой шмат гною, аб каторы запэцкаюць вым'е: трэба яго прад даеньнем абмыць цёплай вадой. Нехта скажа мо', што гэта марудна, але па тыдню гэткай працы прывыкнуць да яго і работніцы і каровы і праца хутка робіцца. Дзеўка бярэ судзіну з вадой, мягкай сьціркай, добра прамочанай вадой, двума дотыкамі абмые вым'е, ідзе да другой — трэцяй каровы, пасьля йшчэ спалошча і вым'і чыстыя. Каровам гэта відавочна прыемна, а малако доенае з гэтак абмытых вым'яў бывае чыстым.

Даеньне мусіць ісьці скора, без непатрэбнага адцягіваньня і доўгага прабываньня ў хляве, дзеля таго што цёплае малако лёгка прымае ўсялякія запахі і пасьля дае няпрыемны смак. З гэтай прычыны трэба хлеў ветрыць, старанна выбіраць гной і дбаць, каб у хляве нічога ня гніло і ня тлела. Малако зьліваецца найлепш у вялікія збаны, усярэдзіне пацынаваныя, дзеля таго што іх найлепш і найбесьпячней пераносіць.

Аж дагэтуль парадак працы быў агульны, далей — паасобны. У маім выпадку паступаю далей гэтак: Дзеля таго што кормім двойчы ўдзень, таксама двойчы ўдзень і доім. Вячэрняе малако студзім у „малочным склепіку“, дзе маем студзёную цякучую ваду. Хто гэтай „жывой“ вады ня мае, можа зрабіць судзіну з бэтону, з дзюрой у дне на выпусканьне вады і гэту ваду зьмяняць прынамся двойчы ў тыдзень. Рана малако (вячэрняе) аграваецца на 35° Ц і разам з малаком ранішнім даецца на цэнтрыфугу. Цэнтрыфугу па кожным ужываньні трэба зараз-жа старанна вымыць гарачай чыстай вадой... Трубкі і бубен шаруюцца шчоткай. Раз у тыдзень вымыем цэнтрыфугу ў вадзе, да каторай дадаецца крыха соды, а пасьля спаласківаецца вадой чыстай.

Сьмятану зьбіраю ў гаршкі паліваныя, да гэтага толькі празначаныя і ніколі яе не мяшаю. Гэта знача, калі зьбіваю масла раз у тыдзень, мушу мець 7 гаршкоў на сьмятану....“

*(д. б.)*

*) Напісана гэта ўвосені 1933 г.

# Kooperatyŭnyja naviny.

Novy kooperatyŭny zakon z dnia 13 sakavika 1934 h, ab jakim my niekalki razoŭ pisali, užo apublikavany ŭ Nr. 38 „Dzien. Ustaw“ z dn. 9 traŭnia 1934 h. U nastupnym numary „Samapomačy“ padamo skaročany pierahlad, a pa mahčymaści pačniom drukavać i poŭny źmiest hetaha zakonu. — U źviazku z novym zakonam, ad 9 traŭnia Sudy nia majuć užo prava rejestravać kooperatyvy, da statutaŭ katorych nie dałučana zhoda Koop. Rady abo Koop. Sajuzu.

Mižnarodny Kooperatyŭny Kanhres (XIV) sklikajecaa sioleta ŭ Anhliju, u Londyn, na čas ad 4 da 7 vieraśnia ŭklučna. Narady sioletniaha kanhresu buduć mieć vialikaje i važnaje zadańnie: znajści sposab supročstavicca varožym naskokam na kooperacyju z boku peŭnych kruhoŭ hramadzianstva i całych dziaržavaŭ.—Kanhres budzie adbyvacca ŭ viedamaj Kryštalovaj Pałacie, jakaja jošč sapraŭdnaj cackaj budaŭlanaj techniki. Pałata

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

heta zbudavana ŭ 1851-54 hadoch na londynskim pradmieści, u parku, jaki razam z stavami i vastravami zajmaje płošču 20 hektaraŭ. Pałata zbudavana z škła i žaleza, udoŭžki mieryć 117 metraŭ, ušyrki — 36 m. i ŭvyški — 53 m., a kaštavała jana 58 miljonaŭ zł. Na hetkija pałacy moža sabie pazvolić tolki Anhlija.

Kooperatyŭnaja Rada pry Ministerstvie Skarbu ŭ Varšavie adbyła anahdaj svajo pieršaje pasiedžańnie pa ŭvachodzie ŭ siłu novaha kooperatyŭnaha zakonu. Rada pastanaviła imknucca da chutčejšaha zlikvidavańnia i vykasavańnia z sudovych rejestraŭ kooperatyvaŭ biazčynnych, abo takich, jakija čynnaściu svajoj škodziać(?) intaresam kooperacyi. Dalej, Rada źmienšyła košty revizii kooperatyvaŭ h. zv. dzikich, ustanaŭlajučy apłatu za adzin dzień revizii na 45 zł. — razam z koštam prajezdu, zamiest dahetulašnich 200 zł. — z daličeńniem koštaŭ prajezdu. Naležnaść pry hetym apłačvajecca biespasiaredna na rachunak fondu Kooperatyŭnaj Rady, z katoraha pašla apłačvajucca revidenty Rady. Apracavana taksama była instrukcyja dla kooperat. sajuzaŭ u spravie vydavańnia paśviedčańniaŭ, pazvalajučych załažyć novuju kooperatyvu. Urešcie pastanoŭlena było apracavać i vydać drukam śpisańnie ŭsich kooperatyvaŭ na abšary Polščy, pavodle vajavodztvaŭ i pavietaŭ, z aznačeńniem dnia ichnaha załažeńnja, hrupy padatkovaj i prynaležnaści da kooperatyŭnaha Sajuzu. Dla kooperatyvaŭ kredytovych pastanoŭlena było vydavać trymiesiačnyja biuleteni z padańniem: stanu ŭkładaŭ na aščadnaści, pazyčak i h. d.

Biełaruski Nacyjanalny Kamitet u Vilni — usienarodnaje pradstaŭnictva Biełarusoŭ pad Polščaj — abnaviŭsia na 1934/35 hod i na ahulnym schodzie 23 traŭnia sioł. h pieravybraŭ novy prezydyjum u nastupnym składzie: staršynia — J. Paźniak, vice-staršyni: V. Bahdanovič i M. Mancevič, skarbnik — A. Klimovič i sekretar — Ul. Kazłoŭski.

U Kamitecie ličycca sioleta 27 pradstaŭnikoŭ ad roznych biel. arhanizacyj i instytucyj. Pradstaŭnikami redakcyi „Samapomačy“ ŭ K-cie źjaŭlajucca hramadzianie: A. Klimovič i M. Mancevič.

## Гаспадарчая хроніка.

**Сэкцыя Эканомікі і Статыстыкі** пры БІГіК ужо апрацавала Рэгулямін і цяпе апрацоўвае інструкцыі і плян працы на будучы год. Асобы, якія цікавяцца працай Сэкцыі і маглі-б у ёй працаваць, могуць ужо запісвацца ў памешканьні Інстытуту (Завальная 1—1), або ў рэд. „Самапомачы“.

**Помач галадаючым беларусом** з ахвяры Літоўскага Дабрадзейнага Т-ва сарганізавана пры рэд. „Самапомачы“. Заявы, пасьведчаныя ведамымі людзьмі і бел. ўстановамі прысылаць трэба не пазьней 3 чэрвеня сёл. г.

**Ласосі ў Вяльлі.** Дня 5 траўня сёл. ўпушчана было ў Вяльлю каля вёскі Ашкінцы каля 20.000 (двацаці тысяч) штук ласосевага нарыбку, выгадаванага на біолёгічнай рыбацкай станцыі ў Белай Ваццы пад Вільняй.

**Цэны на збожжа падымаюцца.** Па доўгатрывалым сталы спаданьні цэнаў на збожжа, апошнім часам гэтыя-ж цэны пачалі падымацца, памалу але стала. Мясцовыя млыны робяць запасы збожжя і ахвотна купляюць яго, плацячы даражэй чым казённы ПЗПЗ.

**Ратуйцеся самі ад шкоднікаў!** З усіх бакоў даходзяць чуткі аб тым, што ў садох, у агародах і на палёх зьявілася шмат розных шкоднікаў. У сувязі з гэтым Stacja Ochrony Roślin (Wilno, Objazdowa 2) заклікае тых гаспадароў, у каторых шкоднікі зьявіліся, прысылаць ей самых шкоднікаў і пашкоджаныя расьціны, а таксама апісаць колькі шкоды гэтыя шкоднікі зрабілі (прыблізна) і гдзе (павет, гміна, мясцовасьць). Станцыя будзе магчы паводле гэтага распазнаць шкодніка і падаць спосаб абароны.

Дадаць трэба, што на Станцыі Абароны працуюць спэцыялісты, дык іхная рада можа быць вельмі карыснай.

**Зьмена памешканьня Віленскай Збажжова-Таварнай Біржы** прадбачыцца у хуткім ужо часе; будзе мясьціцца яна цяпер пры вул Конскай № 20.

**Новая чыгунка ці лепш—чыгуначная ветка** будуецца з дагэтуляшняй станцыі Друскенікі да Друскенікаў—курорту. Адлегласьць гэта роўная 18 кілёмэтрам. Работа пачатая 1 траўня і мае быць кончана 15 верасьня сёлета.

**Вільня—Кабыльнікі** — шаса, якая будуецца ўжо доўгі час, мае быць таксама сёлета скончана.

## Наша пошта.

Жукоўскі — Б.: Праспэкт Завочнага Курсу Коопэрацыі Вам высланы; найлепш аднак запісацца на Курс з верасьня м-ца, толькі не пазьнецеся, бо лік мясцоў агранічаны (вычэрпываюцца друкаваныя лекцыі Курсу).

Гурток БІГіК. — Будслаў: Рэклямаваныя нумары „Самапомачы“ Вам высланы, атрымалі?

Матэлёнак Я.: Тымчасам не атрымалі ад Вас абяцанай падпіскі на „дзесятку“ „Самапомачы“ і таму пасылаем толькі тое што аплачана. З тым мамэнтам як аплаціце падпіску будзе Вам ўсё выслана.

Hapanionak: „Sceničnyja Tvory“ Vam vysłany, piśmo — na pakazany adres — taksama. „Dziesiatku“ „Samapomačy“ budziem Vam vysyłać. Žadajem ŭdačy ŭ pracy.

М. С. — у В. Л. Прысланыя весткі так скупыя, што ня можна з іх мець выразьнейшага паняцьця аб стане рэчаў. Напішэце абшырней. Жадаем шчасьця ў працы!

Я Шатраўскі — С: Часопісь наша акуратна Вам высылаецца, гіне нейдзе ў дарозе. Рэклямаваныя нумары (ад № 1/34) высланы: атрымалі?

Я. Корбут — К.: Бесьпячней ужываць малака пераваранага, але няпрыпаленага. Адказ высланы пісьмом. Чакаем на падпіску.

Міpановіч, Аблажэй і Валканоўскі: падпіску атрымалі, часопісь высылаем. Пашырайце!

(*Fraciah cenaŭ z 2 bač. vokładki*):

**Ryby 18.V.1934.**

Ceny hurtovyja za kilo.

| | |
|---|---|
| Karpy žyvyja, vialikija . . . . | 1 80—2.20 |
| „ niažyvyja . . . . . . | 1 30—1.50 |
| Ščupaki žyvyja, paleskija za kilo. | 1.50—1.80 |
| „ niažyvyja „ . | 1.30—1.50 |
| Płotki . . . . . . . . . . | 0.35—0.40 |
| Vuhoryč . . . . . . . . . | 1.80—3 00 |
| Lasčy . . . . . . . . . | 1.30—1.80 |

